

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№2 (311) ЛЮТЫ 2022 ГОД


COVID-19

## ПЯТАЯ ХВАЛЯ НАКРЫЛА

**Апошнія даныя сведчаць аб тым, што Шумілiншчыну цяпер накрыла пятая хваля каранавiрусу. Як з чарговай навалай зараз змагаюцца мясцовыя медыкі?**

На сённяшні дзень раённыя медыкі адзначаюць даволі значны рост захворваемасці і, па ўсяму бачна, што прымаюць усе належныя меры, каб дастойна трымаць сітуацыю пад кантролем.

Паводле галоўнага ўрача Шумілінскай цэнтральнай раённай бальніцы Святланы Лінкевіч, "пяты сезон пандэміі выдаўся асаблівы". Новы штам – "амікрон" хоця і высокакантагіёзны (вельмі заразны), аднак, на шчасце, цяперашняе захворванне працякае ў больш лёгкай форме. Менавіта таму ў шпіталі цяпер знаходзіцца значна меней пацыентаў з пнеўманіямі. Але ж адначасова адбываецца і вялікая нагрузка на амбулаторным узроўні.

У сувязі з гэтым на рэспубліканскім ўзроўні і было прынята рашэнне прадоўжыць рэжым работы паліклінікі, наладзіць прыём пацыентаў і работу выязных кантактных брыгад у выхадныя.

З улікам асаблівасцей хвалі каранавірусу арганізавана работа гэтак званага "кол-цэнтра", дзе ў будні з 8.00 да 20.00, у выхадныя з 8.00 да 15.00 працуюць чатыры спецыялісты-медыкі. Яны займаюцца маршрутызацыяй пацыентаў, прыёмам выклікаў, тлумачэннем людзям, што рабіць, куды звяртацца, каму заставацца дома і чакаць урача. Тут трэба памятаць асноўныя сімптомы амікрона, а гэта:

галаўны боль, боль у горле, сухі кашаль, ліхаманка, слабасць, стамляльнасць.

Праца Шумілінскай паліклінікі:
у выхадныя дні – з 8.00 да 15.00.
Кантактныя групы – з 9.00 да 15.00.
Кол-цэнтр – з 8.00 да 15.00
+37533 6569370, +37533 6568670, 54109, 53859.

Таксама была арганізавана пашыраная работа інфекцыйнага кабінета – з 8 раніцы да 8 вечара. Раніцай, пры масавых зваротах пацыентаў, прыём адначасова вядуць два ўрачы. Уваход да інфекцыяністаў прадугледжаны асобны, там, дзе раней месцілася «хуткая дапамога».

Дабавілася шумілінцам у гэтай хвалі яшчэ адна асаблівасць пандэміі – гэта «амаладжэнне» каранавірусу. Калі ў першыя хвалі хварэлі людзі сталага ўзросту, то зараз – моладзь і дзеці. У сувязі з гэтым і дзіцячая кансультацыя зараз пераўтворана ў так званую інфекцыйную чырвоную зону. Прыём «чыстых» дзетак і прышчэпкі вынесены ў асобны кабінет на першым паверсе паліклінікі.

Непасрэдна назіраннем за пацыентамі, маніторынгам іх стану займаюцца выязныя кантактныя брыгады. Зараз па раёне функцыянуюць сем такіх брыгад, з іх 3 – па Шуміліне, астатнія – на кожнай урачэбнай амбулаторыі. Пацыенты аглядаюцца на даму, у залежнасці ад ступені цяжкасці цячэння захворвання вызначаны парадак і кратнасць іх агляду, парадак абследавання з заборам крыві, мазкоў і г. д. У кожнай брыгадзе працуюць урач і медсястра. Варта адзначыць старанні кантактнай брыгады па Шуміліне, дзе завіхаюцца медсёстры Кацярына Іванова і Анастасія Гаева, урачы Святлана Леснічэнка, Анастасія Петухова і Кацярына Бажанкова, медсястра Ірына Карацеева.

Разам з тым шумілінскія лекары заклікаюць жыхароў раёна

Не забываць аб прафілактыцы і прыходзіць на вакцынацыю ад каранавірусу. Асабліва звяртаюцца да тых, хто прайшоў першую вакцынацыю, але не прыйшлі на другую – не завяршылі поўны курс, бо гэта азначае, што яны засталіся неабароненымі ў поўнай меры. Таксама запрашаюць і на рэвакцынацыю. Напамінаюць і бацькам: дзеці ва ўзросце ад 12 год таксама падлягаюць вакцынацыі. На сённяшні дзень у раёне вакцыніравана 60 дзяцей, поўны курс прайшоў адзін чалавек. Ускладненняў у дзяцей не назіралася, а вось зараз колькасць хворых дзетак даволі вялікая і пакуль што працягвае павалічвацца.

**Алесь Шумскі**

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

ЭКАНОМІКА

## ЗМЕНШЫЛІСЯ НАДОІ

**За мінулы год Шумілінскі раён так і не дасягнуў адзнакі у тры тысячы кілаграм сярэдняга надою малака ад каровы. Аб гэтым праінфармавалі ў Паставах, дзе праходзіла пасяджэнне калегіі камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні Віцебскага аблвыканкама.**

Дарэчы, пры гэтым сярэдні надой малака ад каровы на Віцебшчыне саставіў 4025 кілаграмаў. Між іншым, агульнае раўненне для усіх гаспадарак было заплапавана менавіта на лідэраў вобласці: Віцебскі раён – 6277 кг, Аршанскі – 5498 кілаграмаў. Верхнядзвінскі, крыху змінусаваўшы да 2020 года, апынуўся на трэцім месцы па надою ў вобласці.

Паставы дадалі 137 кілаграмаў да 2020 года і атрымалі сярэдні ўдой 4312 кілаграмаў. Цягам апошніх гадоў паказчык расце. Гэта і паслужыла нагодай правесці калегію менавіта тут. Каго яшчэ ўхвалілі ўдзельнікі калегіі? Да прыкладу, станоўча ацанілі жывёлаводаў Докшыцкага раёна. Каб атрымаць 4082 кілаграмы, ім прыйшлося дадаць аж 717 кг. Пры гэтым сельгаспрадпрыемствы Міёрскага, Ушацкага і Шумілінскага раёнаў так і не змаглі адолець адзнаку 3 тысячы кілаграмаў.

Па вытворчасці малака ў Віцебскай вобласці зараз другі вынік у рэйтынгавай табліцы краіны, толькі вось не зверху, а знізу – 98,9 працэнта да ўзроўню 2020 года. Сказаць па праўдзе, вельмі сумна. Наводзіць на такі роздум той факт, што фермы будуюцца, рэканструююцца, паралоўе абнаўляецца. У чым жа прычына? Спецыялісты адзначаюць: трэба мяняць падыходы да работы, больш увагі надаваць захаванню тэхналогіі кармлення і вырошчвання жывёл, павышэнню патрабаванняў да работы жывёлаводаў, аператараў машыннага даення.

**Ян Вайтовіч**

ВАЛАНЦЁРСКІ РУХ

## СТАРТАВАЎ ШВЕЙЦАРСКІ ПРАЕКТ

**Шумілінцам пашанцавала: Швейцарскі Чырвоны Крыж падтрымаў праект вакцынацыі супраць ковіда ў Шумілінскім раёне.**

Прынамсі, усё пачалося яшчэ ў мінулым годзе па ініцыятыве Беларускага Чырвонага Крыжа. Для таго, каб падтрымаць медыкаў, якія працуюць у няпростых умовах пандэміі, Беларускі Чырвоны Крыж стаў ініцыятарам многіх праектаў. Адзін з іх пад назвай – "Вакцынацыя супраць COVID-19 (пачатковы этап)" стартаваў у ліпені 2021 года ў пяці рэгіёнах Віцебскай вобласці пры фінансавай падтрымцы Швейцарскага Чырвонага Крыжа.

Каардынатарамі выступілі галоўнае ўпраўленне па ахове здароўя Віцебскага аблвыканкама, а таксама Віцебскі абласны цэнтр гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя. Пілотнымі раёнамі сталі Віцебскі, Сенненскі, Шумілінскі, Лепельскі і Глыбоцкі, паведаміла Галіна Жаланава, старшыня Віцебскай абласной арганізацыі Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжа. Паводле спадарыні Жаланавай,

за чатыры месяцы працы было дастаўлена да месца вакцынацыі больш за тры тысячы чалавек ва ўзросце 60 плюс. У праекце, геаграфія якога ў 2022-м пашырыцца за кошт Браслаўскага, Докшыцкага і Шаркаўшчынскага раёнаў, задзейнічаны 43 валанцёры.

Галіна Пятроўна высока ацаніла цеснае ўзаемадзеянне іх арганізацыі з галоўным упраўленнем па ахове здароўя Віцебскага аблвыканкама. Для прыкладу, у 2021 годзе вынікам сумеснай дзейнасці стала аказанне паліятыўнай медыцынскай дапамогі дома людзям, якія жывуць з ВІЧ. Таксама медсёстры Чырвонага Крыжа ажыццяўляюць догляд пажылых людзей і інвалідаў у Полацку, Наваполацку, Оршы, Віцебску, Чашніках і Лёзне. Пад іх штодзённым патранажам знаходзіцца 140 чалавек.

**М. Амбросаў**

ПЕРАСЛЕД

## ШТРАФ ЗА "ПАГОНЮ"

**Жыхара суседніх Бешанковічаў аштрафавалі за "Пагоню" на багажніку аўто, пільнасць праявілі віцебскія міліцыянты.**

Паездка ў Віцебск па прадукты для жыхара Бешанковічаў завяршылася штрафам – пільныя міліцыянты абласнога цэнтра заўважылі на багажніку аўто «забароненую сімволіку».

Жыхар райцэнтра спыніў машыну на стаянцы ля крамы "Еўраопт" на маскоўскім праспекце. Яго жонка пайшла па пакупкі, а мужчына застаўся за рулём. Праз некаторы час ён заўважыў, што два міліцыянты фатаграфуюць багажнік легкавушкі.

Як аказалася, пільнасць праявілі супрацоўнікі Дэпартамента аховы МУС. У іх рапарце гаворыцца, што падчас патрулявання ля гіпермаркета, яны знайшлі на адным з аўтамабіляў забароненую сімволіку – герб Пагоня.

Мужчына запэўніваў сілавікоў, што налепку на яго аўто прычапіў нехта невядомы і ў іх прысутнасці зняў яе. Супрацоўнікі Бешанковіцкага РАУС пры аглядзе ўжо не знайшлі на аўтамабілі ніякай сімволікі.

На судзе жыхар райцэнтра таксама заявіў, што не ведае, хто размясціў налепку на ягонай машыне. Суд, аднак, прызнаў яго вінаватым у здзяйсненні правапарушэння, прадугледжана часткай 1 артыкула 24.23 КаАП - парушэнне ўстаноўленага парадку правядзення пікетавання, здзейсненае ўдзельнікам масавага мерапрыемства. У выніку мужчыну аштрафавалі на 160 рублёў.

**Пераклад з расейскай рэдактара vitebsk.cc**

АЛІМПІЯДА

# ГАННА СОЛА – ЧАЦВЁРТАЯ

**Беларуская біятланістка Ганна Сола з Шуміліна заняла чацвёртае месца ў алімпійскай гонцы пераследу на 10 кіламетраў.**

Ганна Сола, якая стартавала 26-й, двойчы прамахнулася на лежні, а страляючы стоячы, толькі адзін раз не трапіла мішэнь і ў выніку нават вяла барацьбу за бронзу, але не змагла абысці саперніц.

Лідэр беларускай каманды Дзінара Алімбекава пайшла на дыстанцыю 15-й, адстаючы ад пераможцы папярэдняга спрынту нарвежкі Мартэ Ройселан на паўтары хвіліны. Чыста адстраляўшыся на двух рубяжах са становішча лежачы, беларуска паднялася на дзявятае месца. Але на першай стойцы стральба ў яе разладзілася – Дзінара Алімбекава зарабіла тры штрафныя кругі. Праўда, апошні агнявы рубеж быў пройдзены бездакорна.

Адразу ўслед за Алімбекавай фінішавала Ірына Лешчанка, якая пайшла на дыстанцыю 57-й. Дапусціўшы толькі два промахі на апошняй стойцы.

Чэмпіёнкай на дыстанцыі працягласцю 10 км сёння стала Мартэ Ройселан, якая не закрыла толькі адну мішэнь, паказаўшы вынік 34 мін. 46,9 сек. На 1 хвіл. 36,5 сек. ад яе адстала шведка Эльвіра Эберг.

У выніку Дзінара Алімбекава прыйшла 19-ай (стартавала 15-ай), Лешчанка - 20-ая (стартавала 60-ай). Золата ў Марты Рэйселанд з Нарвегіі, срэбра прывезла Эльвіра Эберг (Швецыя), бронза ў Цірыль Экхоф з Нарвегіі.

**Алесь Прыбярэжны**

СЭРВІС

# “ЗАЛАТЫЯ ДРОВЫ”

**Сёння, які ніколі раней, Шумілінскі лясгас займеў магчымасць бесперабойных паставак дроў і іншых відаў цвёрдага паліва насельніцтву раёна. Паводле дырэктара філіялаа Віцебскага абласнога ўнітарнага прадпрыемства па забеспячэнні палівам Уладзіміра Кійко.**

"Маюцца вялікія запасы — больш за тысяча кубаметраў дроў" Так, несумненна, гэта важкі крок наперад, бо праблема з дровамі для жыхароў стаяла заўсёды востра, асабліва ў зімовы перыяд. Аднак, у рэальным жыцці абставіны склаліся не так гладка, як на паперах. Па-за ўвагай спажыўцоў не застаюцца кошты на паліва, якія растуць хутчэй, чым даходы шумілінцаў. Перш чым пачаць размову аб пастаўках, варта задумацца, а чаму гэтыя горы нарыхтаваных кубаметраў залежваюцца на тэрыторыі мясцовага філіяла?

Аналіз праблемы трэба пачаць з паставак “па льготным кошце. У гэтым выпадку праца ідзе па даўно наладжанай схеме. Маецца адпаведны запіс жадаючых атрымаць дровы ці брыкет строга па гэтак званай “паліўнай кніжцы”. Людзям папярэдне тэлефануюць і паведамляюць, у які дзень прывязуць паліва. Тут нават перавыконваюць даведзенае заданне. У мінулым годзе прадалі насельніцтву 4771 кубаметр дроў, што на 694 больш, чым у 2020 годзе.

Як правіла, на адно домаўладанне па льготнай цане адпускаецца 4,9 кубаметра дроў у год. Гэта трактарны прычэп, які на тэрыторыі філіяла каштуе каля 128 рублёў. Ёсць спажыўцы, якія заказваюць колатыя дровы – тады прычэп на тэрыторыі філіяла каштуе 190 рублёў. Трэба дадаць, што за кожны кіламетр дастаўкі бярэцца яшчэ па 5 рублёў 68 капеек.

Да прыкладу, самая аддаленая вёска, куды нядаўна вазілі дровы, – гэта вёска Духравічы Каўлякоўскага сельсавета, да якой амаль трыццаць кіламетраў. Прынамсі, што па сучасных мерках не так ужо і далёка. Аднак толькі дастаўка каштавала аж 170 рублёў плюс за дровы 128 руб – усяго 298 рублёў. Мякка кажучы, тыя льготныя дроўцы – дарагаватыя. Праўда і тое, што некаторыя пакупнікі цяпер вывозяць дровы і брыкет на асабістым транспарце.

Рэалізуе паліўзбыт і брыкет, які пастаўляецца з Браслаўскага і Лідскага торфазаводаў. Па фіксаваных цэнах на год на адно домаўладанне адпускаецца 3,5 тоны (цана за тону – 25 рублёў 6 капеек). Попыт ёсць – летась прадалі насельніцтву 1419 тон торфабрыкету, што на 10% больш папярэдняга года.

На сёння ў чарзе на дровы стаяць 70 чалавек, а на брыкет – 35 чалавек. Гэта зусім нямнога, як запэўніваюць на прадпрыемстве, бо заяўкі выконваюцца на працягу трыццаці дзён і нават раней. Наогул за дзень трактарысты развозяць па раёне па 7-8 прычэпаў паліва.

А вось калі браць аналіз па свабодных цэнах, то тут пачынаюцца праблемы.

Дровы гэтак званай “звыш нарматыўнай колькасці” Шумілінскі філіял «Віцебскаблпаліва» прапануе ўжо па свабодных цэнах: 307 рублёў за прычэп на тэрыторыі філіяла, сюды трэба прыплюсаваць дастаўку. Апроч таго, заказаць дровы можна ў любым лясніцтве раёна. Цана за метр кубічны з дастаўкай у залежнасці ад пароды дрэў – 28-31 рубель.

Калі дастаўка для вяскоўцах абыйдзецца ў мярэднім каля 100-150 рублёў – дык атрымліваецца немалая сума ад 400 да 500 рублёў! Для працаўніка сельскай гаспадаркі – гэта амаль месячны заробак, а для пенсіянера – цэлая пенсія, або і таго болей. Вось і выходзіць, што пячное ацяпленне з улікам на 6 месяцаў халадоў абыходзіцца не па кішэні, таму што дровы зараз сталі “залатымі”.

**М. Амбросаў**

СЯМ’Я

# БЫЛО Б ТОЛЬКІ ЖАДАННЕ

**Жыць і працаваць у вёсцы нескладана, галоўнае, каб было жаданне. Так лічаць жонкі Вольга і Аляксандр Кляцковы з вёскі Шыліна Шумілінскага раёна.**

Вольга пераканана, што ў вёсцы без асабістай гаспадаркі пражыць дастаткова складана. Працаваць, вядома, даводзіцца ад зары да зары. Але вяскоўцы, як правіла, да гэтага прывучаны. Вялікая адказнасць і нагрузка па доглядзе за буронкамі кладзецца якраз на яе далікатныя плечы, бо муж працуе механізатарам у КУСГП «Ульскі», а гэта значыць, што яго з раніцы да позняга вечара няма дома – пасяўная, затым сенажаць, следам уборачная...

– У вёсцы, як ні круці, без асабістай падсобнай гаспадаркі не абысціся, – прызнаецца Вольга. – Хоць і вельмі клапотна, і займае шмат часу, вынік таго варта. На канапе ляжаць з тэлефонам у руках ці ў кампутарныя гульні гуляць некалі. Затое малако, тварог, смятана – усё сваё, зробленае ўласнымі рукамі. Для сямейнага бюджэту асабістая гаспадарка – крыніца даходу.

Сумаваць мужам не даводзіцца: кароў трэба своечасова накарміць, напаіць, падаіць і пачысціць. І так сем дзён у тыдзень 365 дзён у годзе. Для зручнасці набылі электрапастуха і даільны апарат. Па словах Вольгі Валер'еўны, яны з мужам ужо не ўяўляюць свой двор без жыўнасці, а жыццё – без пастаяннай працы. Акрамя таго, у сям'і падрастаюць двое дзяцей, 14-гадовы сын і трохгадовая дачка.

– Нельга сказаць, што гаспадарка нам у цяжар, наадварот, гэта нам у радасць, - кажа сяльчанка. – Вядома, узімку лягчэй, менш працы, а ў летнюю пару нават і прысесці некалі, на рахунку кожная хвіліна, спраў безліч. Але мы не скардзімся, бо знайшлі сваю нішу. Згадзіцеся, вялікая справа, калі працу робіш з задавальненнем.

Развядзеннем кароў займаюцца даўно, але не з першага разу ўсё атрымалася. Бывала, куплялі кароў за дорага, а прадавалі ў разы танней. Гаспадыня кажа, што шмат чаму даводзіцца вучыцца, і тут на дапамогу прыходзяць знаёмыя ці інтэрнэт. Нягледзячы на цяжкасці, сям'я Кляцковых пагалоўе на падворку збіраецца павялічваць. Таму і падумваюць муж і жонка аб статусе фермераў. Праўда, адзначаюць, што рашэнне гэтае не аднаго дня – трэба сур'ёзна прааналізаваць і праблемы, з якімі можна сутыкнуцца, пралічыць перспектывы.

**vitvesti.by**

**Пераклад з расейскай рэдактара**

ЭКСТРЭМІЗМ

# ТРАПІЛІ Ў “ЭКСТРЭМІСТЫ”

**Паважаныя шумілінцы, будзьце ўважлівыя, бо Telegram-канал з назвай "Шуміліна сёння" нядаўна быў занесены ў Рэспубліканскі спіс экстрэмісцкіх матэрыялаў.**

Інфармацыйная прадукцыя: Telegram-канал з назвай "Шуміліна сёння", які мае ідэнтыфікатар *https://t.me/shumilinosegodnia* і ідэнтыфікатар (ID), які змяшчае паслядоўнасць лічбаў 1406107867.

Па рашэнні суда Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці ад 18 студзеня 2022 года. Падлягае неадкладнаму выкананню ў адпаведнасці з 314 артыкулам Грамадзянскага працэсуальнага кодэкса.

Аб гэтым паведаміла дзяржаўная газета “Беларусь сегодня” на афіцыйным сайце sb.by.

Што гэта азначае для простых грамадзян, якія будуць падпісчыкамі “экстрэмістскіх каналаў”, няхай сабе выпадкова? Падпісчыкі забароненых Telegram-каналаў таксама прыроўнены да экстрэмістаў (!). За падпіску на экстрэмісцкія каналы будзе пагражаць крымінальная адказнасць – аж да рэальнага турэмнага тэрміну.

Як вядома, яшчэ 13 кастрычніка мінулага 2021 года цяперашнія ўлады прыраўнялі падпісчыкаў забароненых Telegram-каналаў да экстрэмістаў, маецца адпаведная пастанова ўрада "Аб мерах процідзеяння экстрэмізму і рэабілітацыі нацызму" зарэгістравана на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

**Алесь Шумскі**

РЭСТРУКТУРЫЗАЦЫЯ

# ХУТКУЮ ДАПАМОГУ РЭААРГАНІЗУЮЦЬ

**Рэструктурызацыю службы хуткай медыцынскай дапамогі ў Шумілінскім раёне, як і наогул службы хуткай медыцынскай дапамогі ў іншых раёнах Віцебскай вобласці плануецца завяршыць у 2023 годзе. Аб гэтым паведаміў начальнік галоўнага ўпраўлення аховы здароўя Віцебскага аблвыканкама Міхаіл Вішнявецкі перад пачаткам выніковай калегіі ведамства.**

Паводле яго слоў, гэта работа актыўна пачалася ў 2021 годзе і працягваецца ў бягучым. На сённяшні час створаны Віцебскі абласны цэнтр хуткай медыцынскай дапамогі. На першым этапе ў яго склад увайшлі аддзяленні хуткай медыцынскай дапамогі Бешанковіцкага, Гарадоцкага, Лёзненскага, Сенненскага і Шумілінскага раёнаў, якія мяжуюць з Віцебскім раёнам. Таксама на яго базе арганізавана работа міжраённага цэнтра хуткай медыцынскай дапамогі ў Віцебску. Што гэта азначае для насельніцтва і пры гэтым ці павялічыцца якасць медычнага абслугоўвання? Калі коратка, то само паняцце “рэструктурызацыя” азначае ўнутранае змяненне структуры арганізацыі, яе кіравання, фінансава-эканамічнай палітыкі і аператыўнай дзейнасці. У даным выпадку чыноўнікі выказалі ўпэўненасць, што “рэалізацыя гэтых мерапрыемстваў дазваляе ажыццяўляць цэнтралізаванае кіраванне службай, у тым ліку пры ўзнікненні надзвычайных сітуацый, якія патрабуюць накіравання на выклік адразу некалькіх брыгад хуткай медыцынскай дапамогі”. Нібыта ў выніку рэструктурызацыі будзе “забяспечваецца раўнамерная нагрузка на брыгады, рацыянальна размяркоўваюцца патокі пацыентаў на шпіталізацыю.”

Трактоўкі рэструктурызацыі і перааснашчэння з крыніц афіцыйных даных, прасцей кажучы – туманныя, з якія не зусім ясна, як канкрэтна па новаму будуць працаваць аддзелы “рэструктурызаванай” медычнай службы ў Шуміліне. Як вядома, у раёне даўно назіраецца востры дэфіцыт дактароў, фельчараў і медыцынскіх сясцёр – кожны месяц да паўтарадва дзясятка свабодных вакансіяў, пусцеюць тыя ж ФАПы, а ў райцэтры маладыя спецыяльсты не затрымліваюцца. Праўда, на бліжэйшае будучае абяцаюць абнаўленне машыннага парку, ды і то не ў Шумілінскім раёне.

З паседжання калегіі аховы здароўя: “Працэс рэструктурызацыі службы ідзе паступова, па меры ўмацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы, у тым ліку закупкі новых аўтамабіляў хуткай дапамогі.” Болей канкрэтна гэта гучыць так: для Аршанскага міжраённага цэнтра на 2022 год запланавана набыццё дзесяці машын. А для Шуміліна пра новыя машыны ў гэты і наступныя гады гаворкі пакуль што не было.

**Ян Вайтовіч**

РЕФЕРЕНДУМ

# «В ТЕКСТ ОБНОВЛЁННОЙ КОНСТИТУЦИИ ЗАЛОЖИЛИ БОМБУ»

**Колумнист «Народной воли» Светлана Калинкина отмечает в своем издании об уточнении в основной закон, которое означает возврат во времена СССР.**




— Белорусам обещали, что обновленная Конституция будет рывком к демократии и народовластию, но в последний момент в текст была заложена бомба, — пишет Светлана Калинкина. — На народное обсуждение выносился проект Основного закона, в котором было зафиксировано, что «демократия в Республике Беларусь осуществляется на основе многообразия политических институтов, идеологий и мнений».

Однако в проекте, который предложен на референдум, формулировка изменена. Теперь часть первая статьи 4 гласит: «Демократия в Республике Беларусь осуществляется на основе идеологии белорусского государства, многообразия политических институтов и мнений».

Уточнение существенное. Потому что оно означает возврат во времена СССР, когда коммунистическая идеология была государственной, Компартия имела статус «руководящей и направляющей силы общества», а государственную политику априори надо было считать правильной и справедливой.

Устроили конвейер репрессий, расстреливали людей. Правильно!

Раскулачивали и выселяли с нажитых мест крестьян, уничтожили самый цвет сельского хозяйства. Слава Советской стране!

Голодомор. Так и надо!

Объявили антинаукой генетику. Партия не может ошибаться...

Работа за трудодни-палочки, ГУЛАГ, ввод войск в Афганистан, отсутствие в магазинах элементарных вещей в угоду гонке вооружений и поддержке стран Африки...

Всё соответствовало государственной идеологии. И теперь мы к этому возвращаемся. С тем лишь отличием, что в Конституции, по которой белорусам предложено жить в XXI веке, не предлагается однопартийная система.

Партий может быть несколько. Но из новой формулировки статьи Конституции вытекает, что все партии должны быть провластными. Гайдукевич со своими друзьями остается, а Борисов с социал-демократами — на выход!

И логика тут простая. Кто проводит государственную идеологию? Власть. Если вы против власти или ее каких-то действий, значит, это уже не та демократия, которая предусмотрена нашей Конституцией.

При этом что такое идеология белорусского государства, вопрос так до конца и не выясненный. Несмотря на то, что на эту тему написаны книги и учебники, курс идеологии преподают в вузах, идеологи работают на предприятиях. Но если попросить сформулировать четко и ясно, то внятного ответа не будет.

По содержанию, это, скорее всего, то, что скажет Лукашенко. Скажет «Придерживаемся политики многовекторности» — значит, многовекторность. Скажет «На Западе враги, а Беларусь — осажденная крепость» — значит, отгораживаемся от мира.

Если говорить о сути, то идеология белорусского государства в нынешней стадии — это иллюстрация старой советской песни: «Мы мирные люди, но наш бронепоезд стоит на запасном пути».

По форме... А формы нет. Потому что идеология государства — это национальная идея, объединяющая, мобилизующая, позволяющая людям разных убеждений прийти к осознанию общих ценностей, способствующая установлению в обществе атмосферы согласия и созидания.

На эту тему сказано много слов, написано много книг. Но национальную идею белорусское государство так и не сформулировало. Не скажешь же, что наша идея — сохранение у власти Александра Лукашенко и тех, кто рядом с ним.

Еще в конце XIX века белорусская интеллигенция поставила вопросы: «Откуда мы? Кто мы? Куда мы идем?» И сформулировала национальную идею о белорусской государственности.

Теперь у нас есть государство. Но где в этом государстве белорусы? Кто в этом государстве рядовые граждане? Куда мы движемся, руководимые государственной идеологией, сформулированной на уровне «за всё хорошее, против всего плохого»? Ответов на эти вопросы нет.

И теперь нам предложено согласиться с тем, что в Беларуси будет воплощена в жизнь армейская «шутка юмора»: «Пункт 1. Командир всегда прав. Пункт 2. Если командир не прав, читай пункт 1».

И это совсем не смешно.

**Светлана Калинкина**
**www.nv-online.info**

АНАЛІТЫЧНЫ ПОГЛЯД

# “ЦУДАЎ НЕ БЫВАЕ — З АДЗІНСТВАМ СТАЛА ЗУСІМ КЕПСКА”

**Экс-кандыдат у прэзідэнты-2006 Аляксандр Мілінкевіч расказаў «Филину» пра нязздзейсненую мару Лукашэнкі.**

***— Лукашэнка звярнуўся да беларусаў, што з'ехалі з краіны пасля падзей 2020 года. Маўляў, вяртайцеся, падайце на калені, кайцеся. На вашу думку, навошта сёння спатрэбілася такое «запрашэнне» вяртацца? Гэта спроба прадэманстраваць канчатковую перамогу над грамадствам? Ці завуаляваная пагроза: сядзіце за мяжой і не думайце вяртацца? І ці паедуць дамоў беларусы пасля такіх «прапановаў»?***

— У гэтым шчырым звароце такая жаданая і нязздзейсненая мара мінулага «Года народнага адзінства»: усе на каленях — лаяльныя ўвесь час дзякуюць, «беглыя» бесперапынна каюцца.

Але цудаў не бывае. З адзінствам стала ну зусім кепска. Нявольнікі баяцца будучыні, таму яе і не маюць. Яе стварае не пуга, а грамадскі дыялог і ўзаемапавага.

Беларусы, якія пасля неверагодных пратэстаў у абарону годнасці аказаліся не па сваёй волі за мяжой, не адгукнуцца на непрыстойнае «запрашэнне» вяртання.

Прыйдзе час і абсалютная большасць з іх, адукаваных, неабыякавых, прыстойных, з высока паднятай галавой вернецца будаваць новую краіну — беларускую і еўрапейскую Беларусь на месцы ваяўнічай, агрэсіўнай тэрыторыі паміж Расіяй і Польшчай.

***— Загучалі пагрозы адабраць маёмасць. Ці бачыцца Вам тут гістарычныя паралелі? Якую пагрозу нясе гэтая ініцыятыва, калі яна будзе ўсё ж рэалізаваная, калі адбіранне маёмасці набудзе масавы характар?***

— Экспрапрыяцыя — гэта шлях да самазабойства ўсялякіх дыктатур з таталітарызмамі.

Як у той прытчы пра бальшавікоў:

— Аб чым яны там крычаць на вуліцах? Яны хочуць, каб не было багатых.

— Дзіўна, а нашы продкі змагаліся, каб не было бедных...

У беларусаў абвостранае пачуццё справядлівасці, гэта была б гульня з агнём.

***— Калі казаць агулам пра атмасферу ў краіне. Палітолагі гавораць пра сталінізацыю рэжыма. Ці згодны вы з такой думкай? Як доўга ўлада можа пратрымацца ў такім рэжыме, не маючы рэсурсаў, акрамя дапамогі з Масквы, што робіцца ўсё меншай?***

— Мінулым летам вядомы быў пасол заходняй краіны ў Беларусі запытаўся ў мяне: «Як у вас справы?». Я адказаў — як у Польшчы ў час увядзення ваеннага становішча ў 80-х. Ён сумна ўсміхнуўся і адказаў — вы жывеце напярэдадні 1937 года.

Тады мне не хацелася верыць, тым больш, я ж на месцы, а ён недзе там. А дыпламат меў халодную рацыю, мы ж зачаста думаем так, як нам прыемней.

Відавочна, што краіна рухаецца да сталінізма, пра які, не маючы дастаткова волі і веры, мы так і не сказалі праўды пасля Перабудовы. За гэты грэх зараз пакутуем.

Як доўга можа пратрымацца рэжым? Ведаю, што Паўночнай Карэі ў нас не пабудуеш, бо мы ў большасці ўжо дакладна не homo sovieticus. Дыктатура адыдзе, невядома толькі калі і якой цаной.

А яна можа быць і вялікай. Напрыклад, калі Пуціну ўсё ж захочацца вайны з Украінай, і Крэмль па-майстэрску разыграе так, каб яе распачаў Мінск у адказ на «памежную правакацыю бандэраўцаў». А Масква проста прыйдзе на дапамогу брацкаму народу.

**Сяргей Васілеўскі**
**gazetaby.info**

РОСТ ЦЭН

# ЧАМУ РАСТУЦЬ ЦЭНЫ І КАМУ ГЭТА ВЫГАДНА?

**Тэма росту цэн у апошні час не сыходзіць, як раней казалі, з газетных старонак. З інфляцыяй ніхто не можа даць рады, прадукты харчавання даражэюць прама на вачах, хатнія гаспадыні ў шоку... Рост цэн выгадны дзяржаве, абгрунтоўвае калумніст Office Life Віталь Чуясаў.**

З апошніх навін яскравы прыклад: раскрыццё «змовы» ўладальнікаў баршчэвага набору — агароднінных баз, якія паднімаюць кошты на базавыя для харчавання беларусаў карняплоды. Я спецыяльна не выкарыстоўваю абарот «неабгрунтавана падымаюць», таму што «абгрунтаванні» ў той канфігурацыі эканомікі, якая склалася цяпер у свеце, могуць быць самыя камічныя. Прыкладаў тлумачэнняў росту цэн маса: ад крызісу сусветных лагістычных ланцужкоў і палітыкі раздачы практычна дарма грошай у ЗША бізнесу і насельніцтву да неўраджая грэчкі дзе-небудзь у сярэдняй паласе Расіі. Але тэма гэтай калонкі некалькі іншая — распавесці, каму выгадны рост цэн.

Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі правяла маніторынг, які паказаў, што «павелічэнне кошту прадуктаў харчавання часам апярэджвае рост заробкаў».

Адказ на паверхні: рост цэн выгадны дзяржаве. Гэта зусім не парадокс, як можа падацца з першага погляду. Так, мы прывыклі, што якраз дзяржава ў асобе розных яе прадстаўнікоў найбольш актыўна «змагаецца» з інфляцыяй. Але любыя статыстычныя даныя пакажуць, што ў гэтай «барацьбе» дзяржава часцей за ўсё прайграе з буйным лікам і цэны няўхільна растуць. Тлумачэнне вельмі простае, і яно звязана з асаблівасцю фарміравання бюджэтных даходаў — у прыватнасці, з удзелам у іх падатку на дабаўленую вартасць (ПДВ).

Цяпер для беларускага бюджэту ПДВ — галоўны сістэмаўтваральны падатак. На 2022 год, напрыклад, ён павінен забяспечыць прыкладна 53 працэнты даходаў

*(працяг на стар. 4)*

РОСТ ЦЭН

*(пачатак на стар. 3)*

рэспубліканскага бюджэту, або больш за трэць кансалідаванага (з улікам мясцовых бюджэтаў). Гэта значыць ПДВ для бюджэту Беларусі — гэта святое, галоўная ікона, на якую павінны маліцца тыя, хто працуе на дзяржаву, адрасаты сацыяльных праграм, пенсіянеры і жыхары бюджэтадэфіцытных беларускіх рэгіёнаў, якія атрымліваюць трансферы з цэнтра для падтрымання сацыяльных стандартаў узору канца XX — пачатку XXI стагоддзя.

Не буду ўдавацца ў хітрасці ўскоснага падаткаабкладання, але калі простымі словамі, то дзейнічае няўхільнае правіла: падвышаюцца цэны — растуць паступленні ПДВ. Далей можна разважаць аб «інфляцыі чаканняў», маральных аспектах скваплівасці і прагі нажывы ўдзельнікаў капіталістычнай, рынкавай, сацыяльна арыентаванай ці іншай эканомікі, але «правіла ПДВ» усё роўна будзе дзейнічаць.

ПДВ — вельмі зручны падатак у плане адміністравання. Не думаю, што мы ад яго адмовімся бліжэйшым часам. Так, калі ўспомніць ліхія 1990-я з галапуючай інфляцыяй, то давайце яшчэ раз на яго памолімся — шмат у чым менавіта ўвядзенню ПДВ мы павінны быць удзячныя за тое, што дзяржаўная бюджэтная сістэма худа-бедна выстаяла, сацыяльная сфера не абрынулася...

Выкладваючы справаздачы па інфляцыі, Нацбанк і Белстат заўсёды акругляюць лічбы да дзесятых, гэта значыць — да адной лічбы пасля коскі. Заўсёды. Але не ў гэты раз, піша праект «Кошт урада».

А што далей?

Польшча з гэтага тыдня часова адмяніла (!) ПДВ на прадукты харчавання. Хаця яны і так у іх абкладаліся па паніжанай стаўцы 5% супраць стандартных 23%. На канец 2021 года рост цэн на прадукты харчавання і безалкагольныя напоі ў гадавым вылічэнні ў Польшчы склаў 8, 6%. На колькі знізяцца (ці прынамсі перастануць расці) тамака цэны на ежу, сказаць пакуль цяжка.

Але мае знаёмыя беларусы, якія жывуць у Варшаве, і так пісалі, што ў польскіх супермаркетах цэннік у пераліку на беларускія рублі такі ж, як у Мінску. А яшчэ я чытаю перыядычна літоўскую прэсу, якая выходзіць на рускай. Апошнім часам там папулярныя гісторыі пра тое, як літоўцы ездзяць на закупы да суседзяў па Еўразвязе (зусім як у дакавідныя часы — жыхары Брэстчыны і Гарадзеншчыны). І на адной паездцы з тыднёвым закупам прадуктаў першай неабходнасці на сям'ю з чатырох чалавек эканомія складае 50% супраць цэн, якія дзейнічаюць у Літве: €200 (у пераліку на злотыя) супраць €300, якія прыйшлося б заплаціць у літоўскіх крамах. Так, гэта такі спецыфічны турызм, на аматара, але тым не менш...

Таму брава польскаму ўраду — ён адзін з нямногіх у свеце (а ПДВ дзейнічае больш чым у 120 краінах свету) вырашыў з сябе пачаць барацьбу з інфляцыяй.

**novychas.online**

РУСІФІКАЦЫЯ

# «ГЭТА ТАКІ ГРЭХ ПЕРАД БОГАМ...»

**Паэт і грамадскі дзеяч Уладзімір НЯКЛЯЕЎ: «Нішчэнне ўсяго беларускага самімі беларусамі —гэта такі грэх перад Богам, што яго не адмаліць і ў сямі цэрквах».**




«Расію я разумею. У 2024 годзе там выбары. Не будзе, канешне, сілавога захопу Беларусі, будзе паўзучая інкарпарацыя. Па сутнасці, ужо на сённяшні дзень Беларусь расійская» — пра гэта кажа Уладзімір Някляеў для партала «Народная воля»

Яны пераканаwны, што ў 2024 годзе яны выйдуць на адзіную валюту. Карацей, будзе выглядаць так, што Беларусь добраахвотна, хай і нефармальна, але далучылася да Расіі. Гэта, канешне, падыме палітычны рэйтынг Расіі, і на гэта яны разлічваюць. Яны так, але што мы — беларусы ва ўладзе ці ў апазіцыі? Мы што, можам неяк спавядаць гэтыя самыя ідэі? Мы што, самагубцы? Мы што, не бачым, як развіваецца свет?

Паглядзіце, што ў Італіі робіцца, што ў Іспаніі робіцца, у англічан што робіцца. Ірландцы хочуць быць ірландцамі. Нават тыя італьянцы, якія жывуць у Венецыі, кажуць: мы не італьянцы, мы венецыянцы. Так што песня пра зліццё народаў і нацый у нешта адзінае цэлае спяваецца даўно, але, па-мойму, гэта такая даволі фальшывая песня. Так, чалавецтва ёсць адно цэлае — гэта безумоўна, гэта арганізм адзіны, але кожны чалавек адрозніваецца ад кожнага чалавека. Так і нацыі і народы. А чым можна адрозніваць, калі мы страцім мову, культуру?

Нішчэнне ўсяго беларускага самімі беларусамі — гэта такі грэх перад Богам, што яго не адмаліць і ў сямі цэрквах. Да некага гэта ўрэшце павінна дайсці. Калі інакш нешта, то я тады дарма пражыў жыццё і нічога ў ім не зразумеў".

**www.nv-online.info**

МЕРКАВАННЕ

# КАМУ І ПЕРАД КІМ ТРЭБА КАЯЦЦА?

**Падчас нядаўняга Паслання Аляксандра Лука-шэнкі народу і парламенту не было звыклых авацый. Пляскалі слухачы падазрона рэдзенька, іх апладысменты выглядалі, кажучы па-народнаму, як адчэпнае.**

Гэта заўважыў і сам выступоўца, пакрыўджана адрэагаваў і публічна папракнуў: маўляў, я тут перад вамі лістом сцялюся, а вы сваіх далоняў шкадуеце. Падобным чынам выпрошвае апладысменты ў раённым Доме культуры сталічны спявак, чыя песенная кар'ера падыходзіць да завяршэння.

А неахвотна пляскалі дэпутаты і чыноўнікі таму, што пры ўсім жаданні паверыць у пачутае не маглі. Чаго быў варты, напрыклад, пасаж пра сотні тысяч іракскіх бежанцаў, расстраляных і закапаных польскімі памежнікамі на мяжы пад Гроднам. Такім «адкрыццям» пляскаць не падымаліся рукі нават у тых, хто на падобных форумах заўзята апладзіруе ўжо не першае дзесяцігоддзе.

Заўважна ажывілася зала хіба разы тры-чатыры, калі эмоцыі Лукашэнкі ўсё ж перамаглі нашэсце сонных флюідаў, якія сяго-таго адольвалі проста перад тэлекамерамі.

У адным з выпадкаў пабудку сыграла наступная тырада, што прагучала як прэамбула да страшнага суда. Датычыла яна тых, хто пасля жніўня 2020 года быў вымушаны пакінуць Беларусь.

«Мой вам совет — кайтесь и становитесь на колени. Заплатите штрафные санкции за нанесенный ущерб. Хотя бы частично... Дальше будет хуже. Поэтому домой! На коленях! Ползком! Сопредседателями (камісіі па разглядзе спраў „збеглых". — М.С.) могут быть Генеральный прокурор и наш глашатай Григорий Азарёнок. И будем ориентироваться на решение этой комиссии».

Адразу ўявілася, як дзе-небудзь на Кургане Славы (гэткім сабе аналагу Паклоннай гары) засядае тая камісія, а да кургана на каленях паўзуць з-за мяжы тыя, хто вырашыў пакаяцца перад уладай. У вызначаны час ля кургана тармозіць «Тэсла» («падарунак Маска»), і Аляксандр Лукашэнка проста на капоце ўзгадняе спісы, рабалепна пададзеныя яму «глашатаем» Азаронкам...

Злавіў бы лося, ды не ўдалося, — гаворыць народная прыказка. Разбегліся грамадзяне далёка па свеце, нерат беларускага правасуддзя да іх не дастае. Той самы нерат, з якога ні ўзад, ні ўперад. А ўладзе хочацца, каб нерат той не пуставаў. Бо вяртанне блудных сыноў — карцінка эфектная яшчэ з часоў біблейскіх. Праўда, пасланне Лукашэнкі ў гэтым сэнсе спрацавала з дакладнасцю да наадварот. Калі хто і меркаваў вярнуцца, то цяпер дакладна ў родную краіну не паедзе. Пакуль не зменіцца ўлада.

Тут можна згадаць, як пасля Другой сусветнай вайны па лагерах перамешчаных асоб у Германіі ездзілі савецкія рэпатрыяцыйныя місіі і агітавалі беларусаў вяртацца на радзіму. Угаворвалі лёстачкамі, абяцалі райскае жыццё ў БССР. І сёй-той паддаўся на ўгаворы, сеў у падагнаны цягнік і паехаў у... ГУЛаг гадоў на дзесяць.

Аддамо належнае Лукашэнку — ён гаворыць адкрыта: прыпаўзайце, мы вас тут трохі засудзім, трохі аштрафуем, пракурорскую праверку зладзім, пакаяльныя відэаролікі запішам. Карацей, на літасць не разлічвайце. Плюс да таго адрасаванае апанентам «запрашэнне» прагучала на фоне бясконцых рэпрэсій і судзілішчаў, калі беларускія турмы папаўняюцца новымі і новымі палітвязнямі (іх ужо больш за 1000). Не спыняюцца і палітычныя звальненні — за ўдзел у пратэстных акцыях, за гумарныя кепікі з рэферэндуму, за допісы і лайкі ў інтэрнэце.

Дык навошта вяртацца? Ды яшчэ «паўзком і з пакаяннем»?

А калі задумацца, то за што і перад кім павінны каяцца, скажам, старшыні выбарчых камісій, якія на сваіх участках засведчылі паразу Лукашэнкі 9 жніўня? За што і перад кім павінны каяцца журналісты, якія спрабавалі данесці да народа небяспечную праўду? За што і перад кім павінны каяцца спартсмены і айцішнікі, настаўнікі і медыкі, прадпрымальнікі і акцёры, чыя віна толькі ў тым, што яны не жадаюць жыць у хлусні, не хочуць прыслужваць сагнутымі ў тры пагібелі лёкаямі на нячыстым валтасаравым гульбішчы?

Каяцца трэба зусім не тым, хто сёння змушаны жыць на ласкавым хлебе за мяжой, пакінуўшы тут старых бацькоў, любімую працу, утульныя хаты. Каяцца найперш трэба ўладзе — з самага верху да нізу. За тое, што дашчэнту растаптала яго вялікасць закон, кіруючыся незабыўным «не да законаў». За тое, што не пакарала фальсіфікатараў выбарчага працэсу, хоць іх прозвішчы неаднаразова агучваліся ў СМІ. За тое, што каты і забойцы сталі ў Беларусі недатыкальнымі....

Каяцца трэба перад народам. Бо смешна і недарэчна, калі пракурор і прапагандыст, які атрымліваў на вуліцах аплявухі ад жанчын, выстаўляюцца як нейкі калегіяльны arbiter elegantiarum.

А пакаяўшыся — перадаць стырно ўлады ў чыстыя рукі. Не на спешна сабраным сумніцельным спосабам «усебеларускім сходзе», не пераемніку з загадзя вызначаным узростам «за пяцьдзясят». А абранаму ўсенародна легітымнаму прэзідэнту — на сумленных і празрыстых выбарах.

Інакш нічога добрага ні тых, хто вернецца з-за мяжы, ні тых, хто чакае іх тут, у нашай краіне не чакае.

**Міхась Скобла**

**Публікацыя з № 9 газеты «Народная Воля»**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 15.02.2022 у 17.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.